


# Мазырскія Навіны

*Гавары - і цябе пачуюць*

**кастрычнік, 2013**

ГРАМАДСКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ


## Юрий Швец объявил голодовку: «Они установили здесь свои правила, и закон им не писан»



Галадоўку лідэра пярвічкі падтрымлівае ягоны намеснік **Васіль Альхоўскі**, які зараз знаходзіцца на бальнічным з пераломам нагі. Ноч яны зьбіраюцца правесьці ў аўтамабілі ля будынку адміністрацыі нафтаперапрацоўчага заводу.

У пярвічнай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюзу на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе — звыш 700 сяброў.

Лідэр пярвічкі Юры Швец кажа, што ўсе ягоныя намаганьні сустрэцца з генэральным дырэктарам заводу Анатолем Купрыянавым плёну ня мелі. І хоць незалежны прафсаюз аддзяляе ад дырэкцыі ў адміністрацыйным будынку ўсяго адзін паверх, трапіць да кіраўніка і абмеркаваць беспадстаўныя звальненьні чальцоў прафсаюзу пакуль не ўяўляецца магчымым. Гэта й сталася прычынай галадоўкі.

**Юры Швэц**: «Ваду п'ю — ад ежы адмовіўся. Разаслаў паперы — кіраўніцтву заводу, у мясцовыя органы ўлады, пракуратуру, канцэрн „Белнафтахім". Ад дыялёгу людзі адмаўляюцца. Прычым — наадрэз. Наагул гэта іх абавязак — сустракацца. Я не напрошваюся пра лецішча размаўляць ці яшчэ пра штосьці такое. Гэта службовыя пытаньні. Службовыя! І яны павінны абмяркоўвацца».

Уранку спадар Швец прыйшоў на працу, каб падрыхтавацца да паседжаньня камісіі па працоўных спрэчках. Галадоўку ён зьбіраецца трымаць на працоўным месцы, чакаючы сустрэчы з кіраўніком заводу:

«У нас адміністрацыя заводу, яна паставіла сябе ўжо вышэй закону— ад таго й крайнія меры. Яна піша свае законы, свае правілы, свае нормы паводзінаў.

У нас адміністрацыя заводу, яна паставіла сябе ўжо вышэй закону— ад таго й крайнія меры

***14 кастрычніка старшыня пярвічнай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюзу на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе Юры Швец абвясьціў галадоўку на знак пратэсту супраць уціску сяброў незалежнага прафсаюзу.***

А дзяржаўныя законы і правы іншых проста ігнаруюцца. Я спадзяюся, што кіраўніцтва заводу ўсё-ткі сустрэнецца з намі. Яно ўжо двойчы адмовілася сустракацца. Я афіцыйна зьвяртаўся ў дырэкцыю наконт таго, што рада нашага прафсаюзу хоча сустрэцца, каб высьветліць, чаму перасьледуюцца чальцы прафсаюзу. Дырэктар заводу адмовіўся ад такой сустрэчы. Потым кіраўніцтва БНП і Кангрэсу незалежных прафсаюзаў даслала запыт на сустрэчу — дырэктар таксама адмовіўся».

Суразмоўца кажа, што і рада пярвічкі незалежнага прафсаюзу, і ён сам дзейнічаюць на прадпрыемстве строга ў межах закону:

«Я не выдумляю нейкія свае прымхі: ня бегаю, не заклікаю спыняць вытворчасьць ці нешта такое. Я выконваю свае абавязкі. Зьявіліся нейкія канфлікты ці пытаньні, я прыходжу й разьбіраюся. Бягучыя справы вяду. Калектыўныя дамовы заключаем, ладзім кантроль. Усё тое, што прадугледжана законам. Я і мае калегі ні на ёту не адхіляемся ад закону. Відаць, камусьці не падабаецца, што мы самі жывём па законах і іншых заклікаем выконваць законы».



*Васіль Альхоўскі і Юрый Швец*

*Працяг...*

Спадар Швец сьцьвярджае, што ўжо гадоў пяць з боку кіраўніцтва нафтаперапрацоўчага прадпрыемства ажыцьцяўляецца ўціск незалежнага прафсаюзу, парушаюцца працоўныя й грамадзянскія правы ягоных сяброў.

Апошняй кропляй у такіх дачыненьнях стала папярэджаньне адміністрацыі пра спыненьне кантрактаў адразу зь пяцьцю чальцамі незалежнага прафсаюзу — мужам й жонкай **Генадзем і Тацянай Бабpоўнікамі** з праектна-канструктарскага аддзелу, **Уладзімерам Ключнікавым, Іванам Шабаном і Аляксеем Ермакам** з цэху № 12. У дачыненьні да іх, заяўляе прафсаюзны актывіст, выстаўлены абсурдныя абвінавачваньні дзеля таго, каб не працягваць зь імі працоўныя кантракты.

Прафсаюзны кіраўнік лічыць, што вынесеныя згаданым асобам дысцыплінарныя спагнаньні не адпавядаюць важкасьці парушэньняў і супярэчаць нормам Працоўнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Намесьнік генэральнага дырэктара па сацыяльных пытаньнях і кадрах у акцыянэрным таварыстве «Мазырскі НПЗ» **Генадзь Цецярук** кажа, што завод звальняе парушальнікаў працоўнай дысцыпліны незалежна ад таго, да якога прафсаюзу яны належаць.

Што да галадоўкі кіраўніка пярвічнай арганізацыі незалежнага прафсаюзу, то парадак такой формы пратэсту вызначаецца законам — і яго трэба трымацца:

«Што такое галадоўка — гэта форма пратэсту. Ёсьць адпаведны закон, як яна павінна праводзіцца. У законе напісана, што ён павінен зьвярнуцца ў органы ўлады, атрымаць дазвол. Якія пытаньні: хочаш галадаць — атрымай дазвол і галадай. Ёсьць парадак. Ну, а калі ты, магчыма, вырашыў проста пагаладаць з карысьцю для здароўя і напісаў учора, што буду галадаць, дык галадай. Так, магчыма, і я галадаю. Можа, у мяне такая дыета — галаданьне».

У другой палове дня на Мазырскім НПЗ засядала пагаджальная камісія па працоўных спрэчках, на якой абмяркоўваліся й пытаньні звальненьня сяброў незалежнага прафсаюзу.

svaboda.org

## «После того, как на Мозырском НПЗ появились идеологи, мы потеряли половину членов организации»

Администрация Мозырского НПЗ пока не отреагировала на голодовку лидеров первичной организации Белорусского независимого профсоюза, протестующих против дискриминации активистов по профсоюзному признаку.

Председатель первички БНП **Юрий Швец** и его заместитель **Василий Альховский** голодают второй день.

Активисты профсоюза – работники **Мозырского НПЗ** – по-разному восприняли эту акцию.

– Ни упреков, ни сочувствия коллеги не высказывают, – сказал Юрий Швец в разговоре с корреспондентом «Салідарнасці». – Поддерживают. Говорят, по-другому уже, наверное, нельзя.

– Некоторые говорят: «Вы только здоровье погубите, а машину не переломите», – добавил Василий Альховский.

Заместитель первички профсоюзной организации **БНП** присоединился к голодовке коллеги, будучи на больничном со сломанной ногой:

– А как иначе? Я должен был поддержать Юру. Ничего такого тут нет. Каждый на моем месте сделал бы так.

Напомним, последней каплей, вынудившей лидеров БНП объявить голодовку, стало увольнение пяти активистов и отказ директора встречаться с профсоюзным активом.

– С 1990 года действует наша организация на Мозырском НПЗ, – рассказывает Юрий Швец. – На протяжении 18 лет между администрацией, нашим профсоюзом и «Белхимпрофсоюзом» были нормальные отношения. Мы всегда находили точки соприкосновения, хотя разногласий хватало. А в 2008-м на предприятии ввели должность идеологов. С этого и начались проблемы. На нашу организацию словно черную метку повесили: начались преследования, давление на членов независимого профсоюза.

В составе нашей первички было 1471 человек, а сегодня осталось 744 человека. Можете себе представить, что происходит на заводе, если численность независимого профсоюза сократилась в два раза!

Лидер первичной организации БНП подчеркивает, что определенные сотрудники администрации завода делают все для того, чтобы никакого диалога с профсоюзом не было, чтобы все предложения, исходящие от независимого профсоюза, игнорировались или блокировались.

– Директор Мозырского НПЗ **Анатолий Куприянов** возглавляет предприятие с 1996 года. Мы с ним много лет знакомы. Как к руководителю у меня к нему претензий не возникало, – говорит Юрий Швец.

Вот только с некоторых пор наниматель отгородился от независимого профсоюза стеной. Попасть к нему на прием профсоюзные лидеры не могут.

– На заводе электронная пропускная система, – рассказывают активисты. – И нам пропуск к директору заблокирован.

– Это унизительно, – считает Василий Альховский. – Например, я вхожу в заводскую комиссию. Все проходят на завод, а меня не попускают.

– Такое поведение для меня странно, – делится Юрий Швец. – Поскольку **Анатолий Куприянов** управляет коллективом завода, часть которого состоит в нашем профсоюзе.

Отмечу, что не все сотрудники администрации ведут себя подобным образом по отношению к нашим активистам, но и их втягивают в это противостояние. Из-за этого у предприятия возникает ряд проблем. Люди решили молчать и заняли выжидательную позицию. Начальники демонстрируют подчиненным свое верховенство. Предложения и обращения от низов воспринимаются негативно, в штыки. На предприятии устанавливается что-то похожее на авторитарный режим.

Лидеры первички Мозырского НПЗ все же надеются быть услышанными администрацией завода и рассчитывают на диалог.

Напомним, они требуют прекратить противозаконные деяния в отношении профсоюзной организации БНП и ее членов, провести расследование пяти случаев увольнения работников завода с использованием компетентных независимых специалистов и отменить дисциплинарные взыскания и иные меры воздействия, принятые к ним.

· Источник: «Салідарнасць»

# Мазырскі праваабаронца сустрэўся з дэпутатамі парламента



15 кастрычніка мазырскі праваабаронца **Уладзімір Целяпун** сустрэўся са старшынёй Пастаяннай камісіі ПП НС РБ “Па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС” Сяргеем Каноплічам (Палеская выбарчая акруга №43) і дэпутатам ПП НС РБ ад Мазырскай выбарчай акругі №42 Мікалаем Расоха. Абвестка аб прыёме грамадзян была загадзя надрукаваная ў мясцовай газеце “Жыццё Палесся”, і праваабаронца запісаўся на прыём.

Акрамя названых дэпутатаў, на сустрэчы прысутнічалі іх памочнікі ў выбарчых акругах, старшыня Мазырскага Савета раённых дэпутатаў Сяргей Гвоздзь, прадстаўнікі ідэалагічнага і юрыдычнага аддзелаў райвыканкама.

«Мяне цікавілі два пытанні. Першае, што робіць ПП НС па ўвядзенню мараторыя на смяротнае пакаранне ў Беларусі. І другое - наконт масавых мерапрыемстваў. Спрабуючы з 2011 года правесці ў Мазыры масавае мерапрыемства, а яго заўжды мясцовыя ўлады забараняюць, я звярнуўся да дэпутатаў з прапановай параіць, як грамадзянам скарыстацца на законных падставах правамі і свабодамі, гарантаванымі Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Але дакладнага адказу атрымаць не давялося, ды і парадаў таксама, - каментуе свой візіт да дэпутатаў Уладзімір Целяпун. - Людзей на прыём да дэпутатаў было няшмат. Перада мною зайшлі разам два мужчыны, і праз хвілін 10 яны ўжо і выйшлі. За мной нікога болей не было, таму мне адвялі дастаткова часу, каб і выказаць сваё меркаванне, і паслухаць развагі…»

Праваабаронца падкрэслівае, што не пачуў адказаў на свае пытанні:

«Асноўны сэнс адказу Канопліча на першае пытанне: наша грамадства не гатовае да новага рэферэндуму па адмене смяротнага пакарання. Маўляў, патрэбна вялікая тлумачальная праца. А наконт другога пытання адказ быў такі: калі б людзі жадалі ўдзельнічаць у пікеце, яны б па запрашэнню прыйшлі б і на стадыён “Спартак”… Аднак мой зварот быў зарэгістраваны, і я спадзяюся атрымаць пісьмовы адказ. Дарэчы, калі я звяртаюся да дэпутатаў па-беларуску, то жадаў бы і чуць адказы на гэтай жа дзяржаўнай мове. На што Мікалай Расоха прадэклараваў сваё веданне роднай мовы радкамі з паэмы Якуба Коласа “Новая зямля”. А вось наўпрост выказаць сваё меркаванне ў яго, на жаль, ведаў не хапіла.

**Напрыканцы сустрэчы праваабаронца прасіў дэпутатаў звярнуць ўвагу на сітуацыю з Незалежным прафсаюзам на МНПЗ. Больш за 20 год гэты прафсаюз дзейнічае на прадпрыемстве. І ў гэтым яго адметнасць. З прыходам на прадпрыемства новага намесніка генеральнага дырэктара па кадрах і сацыяльнай палітыцы, былога начальніка Мазырскага гарадскога аддзела КДБ Генадзя Цецярука пачаўся ціск як на сам прафсаюзны актыў, так і на шэраговых сябраў. Праз начальнікаў цэхаў, участкаў, майстроў на рабочых і спецыялістаў ідзе ціск, іх пераконваюць, што для пабудовы сваёй кар'еры і атрымання іншых прывілеяў неабходна быць чальцом толькі афіцыйнага прафсаюза.**

Таксама дэпутатам былі перададзены інфармацыйныя матэрыялы, відэафільмы супраць смяротнага пакарання, справаздача кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары” з аглядам вынікаў выбараў у Палату прадстаўнікоў 2012 года і іншыя інфармацыйныя матэрыялы па парушэннях і абароне правоў чалавека ў Беларусі.

http://spring96.org/be/news/66557

## Будущие туркменские педагоги избили мозырянина

После групповой драки со студентами из Туркменистана житель Мозыря попал в больницу.

Следственный комитет выясняет обстоятельства инцидента. В нем приняли участие учащиеся местного педагогического университета (МГПУ) сообщает òåëåêàí àë «Мозырь».

По предварительным данным, туркменские студенты педуниверситета ночью отправились в магазин, расположенный недалеко от общежития. По пути они встретили компанию местных жителей. Общение сразу не задалось, началась драка. Для поддержки соотечественников прибежали другие туркменские студенты из общежития. Драку попытался остановить один из местных жителей. В результате, он был сильно избит и попал в больницу.

Возбуждено уголовное дело. В УВД говорят, что случай нетипичный.

*«Случай этот не типичный, но показательный. Иностранцы, находящиеся в нашей стране, обязаны соблюдать Конституцию и другие законодательные акты Республики Беларусь, уважать её национальные традиции, что определено законодательством. Об этом студентам еще раз напомнили во время недавней плановой встречи с представителями административных органов»*, - рассказал подполковник милиции **Андрей Шарманов** - заместитель начальника Управления по гражданству и миграции УВД Гомельского облисполкома.

К сожалению, не все иностранные учащиеся, получающие образования в вузах региона, ведут законопослушный образ жизни. Только с начала текущего года по области было привлечено к административной ответственности около 100 студентов – граждан других стран. Несколько из них, в том числе, студенты МГПУ, были выдворены из Беларуси.

glaza.info

# Светлана Калинкина: Сказочник



***Давайте почитаем документы и закончим, наконец, гадать, за какие средства строилась новая резиденция президента на проспекте Победителей в Минске.***

Светлана Калинкина, “Народная воля”

“Они даже не знают, сколько это стоит, за какие деньги построено. Там нет ни одного бюджетного рубля”. Лукашенко подкинул эту “дразнилку” и уже стало просто делом чести найти “бухгалтерию”.

Итак, 17 февраля 2012 года Александр Лукашенко подписал указ № 75 “Об утверждении государственной инвестиционной программы на 2012 год”. В нем в таблице 5 есть перечень объектов коммунальной собственности, строительство которых финансируется из государственного бюджета. Между строительством терапевтического корпуса на 100 коек в Осиповичской районной больнице и строительством в Минске квартир для детей-сирот затесался самый обсуждаемый на сегодняшний день объект. На “Административное здание на территории в границах ул. Орловской -просп. Победителей -р. Свислочь” в 2012 году было предусмотрено выделение 200 миллиардов рублей, или 24 миллионов долларов.

Между прочим, это 142 годовых плана по строительству в Минске квартир для сирот и семей, воспитывающих сирот. По крайней мере, если сравнивать с тем же 2012 годом, когда на эти цели из государственного бюджета выделялось только 1,4 миллиарда рублей.

Наступил год 2013-й, стройка, несмотря на кризис и год бережливости, не остановилась. Что не удивительно. Потому как 14 марта 2013 года Александр Лукашенко подписал указ №126, которым вновь обозначил объекты для инвестиций. И в таблице 5 мы вновь видим “Административное здание на территории в границах ул.Орловской-просп.-Победителей-р.Свислочь”. На нынешний год на объект из госбюджета выделено 974 миллиарда 400 миллионов рублей. То есть 110 миллионов долларов. Теперь это эквивалентно 396 годовым квотам на строительство в Минске жилья для сирот (на 2013 год заложено 2,46 миллиарда рублей).

Одно “административное здание” потянуло из республиканского бюджета больше половины объема годового финансирования строительства коммунальных объектов по всей стране. Это в 10 и более раз больше, чем должно быть выделено средств на все объекты этой категории в каждой отдельно взятой области (кроме Минской). То есть на школы, поликлиники, социальное жилье и тому подобное. Но коль уж Лукашенко вещал студентам, что для него важнее строить квартиры для сирот и многодетных, а не восстанавливать старинные замки, то сравним и с замками. На реконструкцию Коссовского замка, например, в этом году из госбюджета должно быть выделено 1,7 миллиарда рублей. То есть на новую резиденцию радетель народный, историк и скромник “отжалел” в ... 570 раз щедрее.

Как теперь уже известно, дополнительно деньги на это строительство выделял Мингорисполком. По крайней мере, если заместитель министра финансов Владимир Амарин в ответе на запрос ОГП не соврал, то все цифры надо умножать на два, так как, по его утверждению, 50% строительства финансируется из республиканского бюджета, еще 50% — из бюджета Минска.

Впрочем, главное не это. Главный вопрос: **что это было - речи про “ни рубля из бюджета”?**

**Ответ:** очень похоже, что это не провалы в памяти, а просто сказки. Это ведь так приятно, кода ни копейки не потратил, а дворец как-то “по царскому веленью, по моему хотенью” выстроился. Но так не бывает. А бывает, как раз, наоборот: построили дворец, зато не построили десятки детских садов, поликлиник, квартир для сирот.

**Мораль** той сказки: в грязь лицом с этим дворцом мы не промахнулись.

# Як зацікавіць беларусаў размаўляць па-беларуску?

На гэтае пытанне дае адказ праект пад назвай «Мова ці кава», які быў прадстаўлены ў Варшаве. На мерапрыества сабралася каля 30 чалавек, сярод якіх беларусы, палякі ды нават японец, зацікаўлены беларускай культурай. Прысутныя змаглі пазнаёміцца з праектам, а таксама прыняць ўдзел у адкрытым паказальным уроку: у дыскусіі прысутныя абмяркоўвалі пытанне забароны расейскай мовы ў Беларусі.

Па словах аўтаркі праекта **Кацярыны Кібальчыч**, можна размаўдяць на кожнай мове, але варта ведаць сваю.

*- Мова – гэта, увогуле, сродак камунікацыі. Я лічу, што магу і на французскай, і на польскай гаварыць. Але важна, каб беларускамоўныя людзі добра адчувалі сябе ў сваёй краіне. Вядома, цяжка ад іх патрабаваць, каб яны былі такімі ж моцнымі, як хрысціянскія святары, што ў Афрыку прыязджаюць. Гэта ж людзі, яны слабыя.*

«Мова ці кава» - гэта бясплатныя курсы беларускай мовы. Занаткі ўжо адбываліся ў Менску ды Маскве. Плануюцца заняткі таксама і ў Варшаве.

Вікторыя Сцяпановіч, **Беларускае Радыё Рацыя**

*Мазырскія* **НАВІНЫ**
ГРАМАДСКА-ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ
Наклад 299 асобнікаў
Эл. адрас рэдакцыі: mazyrcivil@gmail.com